ГОД VIII САКАВІК - КРАСАВІК 1954 г. № 59

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

**ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ**



ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА
МЕНСКАЕ МАЦІ БОЖАЕ

**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VIII. N° 59 Mars-Avril 1954

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 60. Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:

M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.
in Goslar,

## КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.

M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

# З беларускае народнае мудрасьці

Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.

Ён за пяць грошаў пехатою вош да Смаленску пагоніць (Аб скнэры).

Жаба квокча, сваё балота хваліць.

Жаласьнікаў многа, да памоцнікаў мала.

Жартаваць вольна, да не калоць больна.

Жонка ня лапаць, з нагі ня скінеш.

Жуда бядзе ня помач.

Жыві добра з людзьмі: з добрымі для дабросьці, а з ліхімі для злосьці.

Жыві проста, пражывеш гадоў со ста.

Жыві так, каб другім было добра з табою, а табе з імі.

Жывому чалавеку ўсяго патрэба.

Жыцьцё да жыцьця ня прыходзіцца, як чалавек да чалавека.

Жыцьцё, як дарога; прасі Бога.

За аднаго вучонага дзесяць нявучоных даюць і то не бяруць.

За аднаго разумнага сто дурняў даюць, да іх браць ня хочуць.

За баляваньнем сьледам ходзіць галадаваньне.

Забіла-б баба лося, каб удалося.

Забыўся аб Богу і Бог аб ім забыўся.

З адважным добра і ў лес ісьці.

За дабро дабром плаціць трэба.

З адным Богам на сто ворагаў.

За камаром не ганяйся з тапаром.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. САКАВІК-КРАСАВІК № 59

# Вялікодны настрой

Ці варта гаварыць аб вялікодным настроі пасьля Вялікадня? Бязумоўна што так! Гэткую думку мае на ўвеце і Царква, калі сьяткаваньне Уваскрасеньея Хрыста прадаўжае праз цэлы тыдзень, а ў далейшым яшчэ мае ў некаторых абрарах пасьлясьвяточныя службы аж да серады перад Ушэсьцем, калі ўласьціва адбываецца служба «адданьня Пасхі».

Варта часта пераносіцца думкаю да тэтага найбольшага хрысьціянскага сьвята і чэрпаць з яго ўсё тое багацьце ласкаў, якія адтуль выплываюць. А гэтае багацьце нявычарпальнае і даступнае кожнаму верніку. У цэркавах усходняга абраду гэтую даступнасьць выказваецца вобразна цікавым звычаем, што праз цэлы вялікодны так званы сьветлы Тыдзень увесь час астаюцца адчыненымі ўсе дзьверы ў іконастасе і ўсе багаслужэньні маюць выключна радасны характар. Калі сучаснае жыцьцё нам прыносіць мала радасных хвілінаў, дык як-жа не зьвяртацца да крыніцы нявычарпальнае радасьці, да сьвята Уваскрасеньня Хрыста? Як не карыстаць з таго нябеснага дару, які сам Бог пасылае людзям праз Сваю Царкву?!

Найглыбейшаю асноваю сапраўднае радасьці ёсьць нутраны, духовы настрой чалавека. І якраз да вытварэньня такога настрою можна знайсьці непахісныя асновы ў факце ўвайскрасеньня Хрыста.

Трэба сабе толькі ўсьведаміць сапраўдны сэнс сьвята Уваскрасеньня Хрыста, каб убачыць відавочна, якую радасьць яно можа даць. Трэба зьвярнуць увагу на самы зьмест сьвята, а не на суправаджальныя хатныя звычаі. Гэты мамэнт неабходна падчыркнуць, бо ў сучасным зматэрыялізаваным сьвеце неадзін нават шчыры вернік па прывычцы зьвяртае больш увагі на сытна накрыты стол, на чыстую вопратку, гасьцяваньне, як на самы зьмест сьвята. Гэткім чынам усё тое, што толькі прынагадна суправаджае сьвята, каб выказаць нутраны вялікодны настрой, займае першае мейсца, а істонае з самога сьвята йдзе ў цень, калі ў сапраўднасьці павінна быць наадварот.

Першае мейсца заўсёды належыцца найважнейшаму, а ў сьвяце Уваскрасеньня Хрыста найбольш істотным ёсьць тое, што гэта ёсьць сьвята, калі Хрыстос адчыніў дзьверы раю, даканаў збаўленьня людзтва з няволі граху. Гэта сьвята, у якім выявілася бязьмежная Божая любоў да людзей і выявілася, што яна перамагае злобу, што цярпеньню будзе канец.

Нашае жыцьцё не канчаецца тут на зямлі; яно тут толькі пачынаецца, прайходзіць час пробы, каб заслужыць на вечнае шчасьце ў небе. Хрыстос цярпеў — і мы мусім цярпець, але Хрыстос уваскрос і мы ўваскросьнем. І што пасьля гэтага могуць значыць хвіліны цяжкасьцяў у дачасным жыцьці? Нічога! Сьведамасьць таго, што цярпеньне ёсьць толькі дачасным і пераходным зьявішчам для тых, хто захоўвае Божыя прыказаньні, дае нязломную сілу пераносіць усе дачасныя бядоты, усе нявыгоды, ня схіляючы на дол галавы.

Старацца, каб на Вялікдзень мець чыстую вопратку, гэта добра, але пры гэтым забыцца ачысьціць сваю душу ад грахоўнага бруду, ёсьць проста супярэчным самому сэнсу сьвята. Добра на Вялікдзень мець сытна застаўлены стол, але насыціць толькі смачнымі стравамі жывот, а забыцца аб страве для свае душы, аб сьвятым Прычасьцю — гэта крайне неразумна. І што вартае стараньне аб добрым прыняцьці госьцяў, калі ня прыймеш у сваё сэрца найбольшага Госьця — эўхарыстычнага Хрыста, свайго ўкрытага Бога і Валадара сусьвету?!

Калі хто па сапраўднаму адсьвяткуе Вялікдзень, дык для яго сьвяточны настрой трывае вельмі доўга. Калі-ж хто дзеля нейкіх уважлівых прычынаў ня змог адсьвяткаваць гэтага сьвята, дык мае нагоду зрабіць гэта праз увесь пасьвяточны час, які Каталіцкая Царква прадаўжае аж да Сёмухі.

Хто ня ведае, як важным дзейнікам у жыцьці ёсьць радасьць! А шчырую радасьць дае чалавеку чыстае сумленьне, тады як грэх уносіць у душу чалавека мярцьвечу. Таму грэшнікі стараюцца шукаць радасьць рознымі штучнымі і часта грэшнымі спосабамі, спрычыняючы тым самым яшчэ горшае абцяжаньне свайго сумленьня. Ёсьць толькі адзіны спосаб адцяжыць і ачысьціць сумленьне — гэта шчырая сьвятая Споведзь — яна ня толькі лечыць раны спрычыненыя грахом, але і адраджае духовае жыцьцё і дае шчырую радасьць. Вось таму і вымагаецца, каб перад тым

як сесьці за вялікодны стол перш выспаведацца, адрадзіцца духова.

Якраз у часе сьвяткаваньня Вялікадня ў прыродзе можна бачыць мноства сымбаляў адраджэньня; тады расьліны прабуджаюцца ад зімовага сну, прабуджаюцца так-жа і тыя жывёлы, якія ўзімку спалі; вяртаюцца з выраю птушкі, каб уславіць сваім сьпевам прыход новае вясны. У зьзяньні веснавога сонца радасна ўсьміхаецца зямля, убіраючыся ў новыя кветкі і сугучна з ею можа радасна ўсьміхацца той, што годна адсьвяткаваў сьвята Уваскрасеньня Хрыста.

Ведаючы, як зганьблены, патаптаны грубаю сілаю ды подступамі, замучаны Хрыстос, уваскрос у славе і велічы, каб даць магчымасьць усім людзям асягнуць вечнае шчасьце — мы йдзём да Яго, каб удзельнічаць у Ягоным вечным шчасьці, ідзём праз усе цяжкасьці і перашкоды і ўжо самая сьведамасьць таго, што йдзём добрым шляхам, дае магчымасьць пераживаць у дачасным жыцьці хвіліны нявымоўнае радасьці.

**а. Леў**

# ІСУС ХРЫСТОС

Што значыць імя ІСУС? Што — ХРЫСТОС? Слова Ісус паходзіць ад гэбрайскага слова Ёшуа, што значыць Збавіцель, а Хрыстос — гэта грэцкае слова χριστός, што азначае Памазаны.

Сваё імя Ісус атрымаў з волі Айца Нябеснага яшчэ перад народжаньнем. Арханёл Гаўрыіл падчас дабравешчаньня казаў Марыі: «Ня бойся, Марыя, бо ты зачнеш у лоне і народзіш Сына і назавеш Яму імя: Ісус» (Лук. I. 31). Падобна кажа і эвангэліст Матэй (1, 21).

Сьв. Бэрнард кажа: «Ісус насіў імя поўнае значэньня і выразьлівасьці». Гэта значыць, што самым сваім іменем Ісус выказаў тую місію, якую Ён меў выканаць: даць збаўленьне сьвету.

Апостал Павал у лісьце да жыдоў так пераказваў зварот Хрыста да Бога-Айца: «Уступаючы ў сьвет так казаў: ахвяраў і дараў Ты не захацеў, але цела Мне падрыхтаваў. Цэлапаленьні за грахі Табе не падабаліся. Тады Я сказаў: Вось іду, як на пачатку кнігі напісана аба Мне, каб чыніць, Божа, волю Тваю» (Жыд. X, 5-7). Гэтымі словамі апостал выказвае настрой Ісуса Хрыста ў самую хвіліну Яго ўцелаўленьня. Гэта была ахвяра Хрыста з Самога Сябе. Ён на пачатку ўцелаўленьне зложыў сябе на аўтар як цэлапальную ахвяру толькі думкаю, сэрцам, пастанаўленьнем, а даканаў яе чынам на крыжы ўканцы туземскага жыцьця.

Выкананьне свае збаўчае місіі Ісус зьдзейсьніў з радасьцю. Псальмапевец бачучы наперад гэты мамэнт, піша: «Цешыцца, як волат, што кінуўся прабегчы свой шлях» (Пс. XVIII, 6). Гэтым волатам тут ёсьць сам Ісус Хрыстос. Радасьць вялікая была ў Яго сэрцы, бо вялікую цэлапальную ахвяру з Сябе Самога меў прынесьці ня з прымусу, але з любові да свайго Нябеснага Айца і да людзей. Дзе любоў, там заўсёды радасьць нават у найбольшых цярпеньнях, цяжкасьцях, катаваньнях, сьмерці на крыжы, на кастры!

Ісус Хрыстос прыйшоў даць задосыцьучыненьне свайму Нябеснаму Айцу за грахі ўсяго людзтва, таму і кажа прарок Ісаія: «Госпад узлажыў на Яго бясчынствы ўсіх нас» (Іс. LIII, 6). Таму Ісус Хрыстос і цярпеў не за кагосьці аднаго з нас, але за кожнага паасобку і за ўсіх разам. Таму і цярпеньні Яго былі бязьмежныя. Той-жа прарок Ісаія аб цярпячым Ісусе кажа: «Няма ў Ім ні харaства, ні прыгажосьці... Ён быў зранены за нашыя бясчынствы і скрышаны за нашыя злачыны» — цэлая 53-я глава прысьвечана апісаньню Ісусавых цярпеньняў, і гэта прарок рабіў не як просты пісьменьнік, але з натхненьня Сьвятога Духа.

Усе ўчынкі, намеры і думкі, кожны рух Ісусавага сэрца паходзілі ад Боскае асобы ў Ім (сьвятая і непамыльная вера вучыць нас, што ў Ім была адна Асоба,але з дзьвюма натурамі: боскай і людзкай) і таму мелі бязьмежную вартасьць. Дзеля гэтага Ісус мог збавіць сьвет нават найменшым сваім актам; даць поўнае задосыцьучыненьне свайму Нябеснаму Айцу за нашыя грахі. Аднак у сваёй бязьмежнай любові Ён прыняў цяжкія цярпеньні, каб мы ўбачылі, як Ён нас любіць і стараліся любіць Яго такою-ж любоўю і гэтак-жа любіць сваіх бліжніх.

Сваім бязьмежным цярпеньнем і сваею любоўю Хрыстос выслужыў нам збаўленьне, вечнае жыцьцё ў нябесным шчасьці. Што-ж гэта заслуга нагул? Гэта права да заплаты і нагароды. Пасьля таго, як Хрыстос цярпеў і памёр за нас на Крыжы, як наш Збавіцель, мы маем права да неба, да вечнага шчасьця, да радасьці аглядaньня тварам у твар Трыадзінага Бога на векі вечныя.

Але як? На якой аснове Хрыстос мог гэта зрабіць, калі мы ведаем, што асоба сваімі дзеяньнямі заслугоўвае нагароду перадусім для сябе? — А на той аснове, што Хрыстос прыйшоў на гэты сьвет не як прыватная асоба, а як галава ўсяго людзтва, як другі Адам, для збаўленьня і адраджэньня людзтва. І як праз першага Адама, галаву людзтва па прыродзе, першародны грэх перайшоў на ўсіх людзей, так праз другога Адама, Ісуса Хрыста, галаву людзтва па Божай збаўляючай ласцы, даецца кожнаму з нас збаўленьне і жыцьцё ў сілу Хрыстовых заслугаў, калі мы іх

не адкідам, але прыймаем з вераю, надзеяй і любоўю ды стараемся карыстаць з багацьця новага надпрыроднага сьвету, данага нам на заўсёды. Таму і піша апостал Павал: «Калі мы, будучы ворагамі, памірыліся з Богам праз сьмерць Яго Сына; то тымбольш памірыўшыся, мы збаўляемся ў жыцьці Ягоным. Ды ня толькі гэта, але і хвалімся Богам праз Госпада нашага Ісуса Хрыста, праз Якога мы сёньня атрымалі прымірэньне.. Дзеля гэтага, як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у сьвет, і праз грэх сьмерць, гэтак і сьмерць перайшла на ўсіх людзей, бо ў ім усе зграшылі... Але ня так як правіна гэтак і дар ласкі. Бо калі праз аднаго памерлі многія, дык шмат больш ласка Божая і дар ласкі аднаго чалавека, Ісуса Хрыста, аплывае багацьцем для многіх» (Рым. V, 10-15). Крыху далей гэтую думку апостал выказвае яшчэ ясьней: «Як праз непаслухмянасьць аднаго чалавека шматлікія зрабіліся грэшнікамі, так і праз паслухмянасьць аднаго шматлікія зрабіліся праведнымі» (Рым. V, 19).

Адгэтуль ясна відаць, што ўсё багацьцё надпрыроднага жыцьця, якое цяпер маем, усё гэта выплывае ад Ісуса Хрыста ў сілу Яго бесканечных заслугаў. І тое, што чыніць Ягоныя заслугі бясконца вартаснымі перад Нябесным Айцом, а перад сьветам нязьмерна прыгожымі, дык гэта Яго свабода і любоў, з якімі Ён для нас цярпеў і аддаў сваё жыцьцё. Там няма заслугаў і няма задаваленьня, дзе пануюць прымус, гвалт і няволя, таму ў сьв. Пісаньні падчыркаваецца, што Хрыстос зыйшоў на зямлю дабравольна: «Вось іду... чыніць, Божа, волю Тваю» (Жыд. X, 7).

Людзі ад вякоў мелі сьведамасьць, што за свае грахі неабходна перапрасіць Бога і выяўлялі гэтае пераканаце, прыносячы Богу розныя ахвяры. У старым Запавеце ў ахвяры складалі розныя расьліны, плады палёў і садоў ды розныя жывёлы. Але таму, што ніякая ахвяра з сатвораных рэчаў і істотаў ня была суразьмерная да таго, каб задасыцьучыніць за зьнявагу Бога учыненую грахом, дык яны не маглі замасьціць прорвы, якую ўчыніў грэх між Богам і чалавекам і калі нават гэтыя дробныя ахвяры прыносіліся часта людзьмі з нячыстым сумленьнем, дык Бог вуснамі прарока казаў: «Недаспадобы Мне прыношаньні з рук вашых. Бо ад усходу сонца да захаду будзе вялікае Маё Імя між народамі і на ўсякім мейсцы будуць прыносіць і ахвароўваць Майму Імені чыстую ахвяру» (Малахія, I, 10-11). І гэтаю чыстаю, вялікаю і сьвятою ахвяраю за людзтва стаўся Ісус Хрыстос.

Як кожная ахвяра вымагае сьвятара, для яе выкананьня, таксама і найвялікшая з усіх ахвяраў — Ахвяра Збавіцеля вымагала сьвятара і пры тым сьвятара найбольшага, боскага. І гэтым боскім сьвятаром ёсьць сам Ісус Хрыстос. Таму і называецца Ён — Памазаным, або Памазанікам, бо ўжо ў часох старога Запавету памазаньне сьвячаным алеем належала да абраду пасьвячэньня ў сьвятары. Ісус, як сьвятар для прынясеньня боскае ахвяры быў памазаны Духам Сьвятым у часе свайго ўцелаўленьня.

З Хрыстовых заслугаў і збаўчых ласкаў нам трэба карыстаць з глыбокаю вераю, моцнаю надзеяю і гарачаю любоўю, каб самым стацца падобнымі нашаму вялікаму ўзору — Ісусу Хрысту. Госпад Бог вымагае ад нас гэтага, бо Ён нас «прызначыў, каб сталіся падобнымі да вобразу Сына Яго» (Рым. VIII, 29). І ў асяганьні гэтага падабенства будзе нашае збаўленьне, наша вечнае шчасьце, як кожнага паасобку, так і ўсіх агулам, а тым самым і нашае дарагое бацькаўшчыны Беларусі.

**а. Я. Тарасэвіч**

# ІКОНА — АБРАЗ

На старонках беларускае прэсы нярэдка адну і тую самую рэч называюць рознымі імёнамі. Не ўвайходзячы ў тэарэтычныя разважаньні што да гэтага зьявішча, варата выясьніць хоць адзін канкрэтны выпадак, каб прычыніцца да зьменшаньня непажаданых моўных разьбежнасьцяў.

Ня так даўно некаторыя чытачы зьвярнулі ўвагу, чаму адну і тую самую рэч адны называлі іконаю, і другія абразом?

Ёсьць дзьве галаўнейшыя прычыны такое разьбежнасьці ў назовах. Першая — што некаторыя самую ікону ўважаюць за нешта тыпічна расейскае, а тым самым і ў слове «ікона» адчуваюць якісьці расейскі пах, таму і выяўляюць нахіл унікаць яго ў беларускай мове. А другая — гэта нязнаньне розьніцы між іконаю і абразом. Цяпер, калі публікуецца сьпіс цудатворных беларускіх іконаў, неабходна так-жа выясніць і тэрміналёгію для іх азначэньня.

Слова «ікона» ёсьць грэцкім словам εἰκών у стараславянскай вымове і яно сёньня ўжываецца даслоўна ўва ўсіх літаратурных мовах сьвету, як іншамоўнае слова грэцкага паходжаньня. Тым самым і ў расейскай мове яно ёсьць толькі іншамоўным словам.

Беларускае слова «абраз» ёсьць дакладным і добрым перакладам грэцкага слова εἰκών і таму, калі яго ўжываць замест слова ікона, дык гэта ня будзе ніякай памылкай, але ў некаторых выпадках мова можа шмат траціць на сваёй дакладнасьці. Да таго слова «абрзз» ня ёсьць выключна беларускім, бо ў расейскай мове ёсьць

«образ» і ў польскай «obraz». Падобна і ў іншых мовах, ёсьць адпаведнік да гэтага слова, а калі яны яшчэ ўжываюць слова «ікона», дык гэта таму, што яно служыць да азначэньня асаблівага абразу, для якога нельга знайсьці больш адпаведнага слова, як гэтае агульнапрынятае грэцкае слова і ў агульнапрынятым значэньні.

Агулам абразом называецца кожны твор выяўленчага мастацтва так сьвецкага, як і рэлігійнага. Але калі трэба дакладней азначыць творы мастацтва, дык тады ўжываецца больш дакладная тэрміналёгія, якая ўдакладнівае зьмест, тэхніку і стыль абразоў. І так паводля зьместу абразоў разрозьніваюць: партрэты, краявіды, груповыя сцэны, натюрморты і рэлігійнага зьместу; паводля тэхнікі — іконапісь, мініяцюры, акварэлі, графіка, пастэлі, фрэскі і інш.; паводля стылю — іконы, малюнкі розных школаў: клясыкі, рэнэсансу, бароко, мадэрныя; карыкатуры і інш.

З гэтага кароткага і сухога пералічэньня можна бачыць, што ікона — гэта абраз рэлігійнага зьместу намаляваны паводля спэцыяльнае тэхнікі і мае сваеасаблівы стыль. І стыль ёсьць найбольш характэрны для іконы як такое.

Якія-ж характэрныя азнакі стылю іконаў? Гэта ёсьць стыль старога бізантыйскага выяўленчага мастацтва, якое яшчэ ня мела пэрспэктывы і таму абразы мелі плоскасны характар. Гэта значыць што прастор у глыб і далячыню або зусім не азначаўся, або азначаўся толькі сумарычна. Калі-ж у некаторых іконах трэба было абавязкава неяк азначыць прастор дык да гэтага ўжывалася так зв. адваротная пэрспэктыва.

Постаці сьвятых на іконах маюць пераважна франтальную паставу, невялікі зварот галавы дазваляўся толькі ў груповых кампазіцыях; гэтым і тлумачыцца тое зьявішча, што вочы сьвятога з іконы заўсёды зьвернены да глядзельніка, ці ён будзе стаяць перад іконай, ці збоку.

Ікона мае заўсёды нейкую ідэю, якую выказвае шматлікімі сымбалямі, дзеля гэтага каб магчы належна ацаніць нейкую ікону, трэба перш яе добра зразумець. Дзякуючы сымбалям іконапісцы змаглі выказваць розныя пачуцьці сьвятых, захоўваючы заўсёды супакой іхных абліччаў.

Земскае красы аблічча, рэальнасьці, асабістае характэрыстыкі намаляваных постацяў нельга шукаць у іконах, бо яны маюць на мэце выказаць веліч сьвятасьці і веліч вечных ідэалаў і гэта стараюцца асягнуць праз надземскі супакой абліччаў, суровасьць паставаў, раскошную і багатую колернасьць і часта праз залатое тло.

На працягу вякоў іконапісны стыль крыху мяняўся, але ня шмат. У VIII веку лютавала ў Бізантыйскай імпэрыі гэрэзія іконаборства. Тады ў змаганьні з гэрэзіяй усталена асноўныя вытычныя для іконапіснае тэхнікі і стылю. Тады-ж удакладнена каталіцкую навуку адносна пашаны іконаў. У тым часе іконопіснае мастацтва было наблізілася да дагматызму, дакладна азначаючы зьмест і мэту розных тыпаў іконаў. У гэтай форме бізантыйскае рэлігійнае мастацтва было пашырана ня толькі на Усходзе, але і на Захадзе і ў такой форме прыйшло на Беларусь разам з хрысьціянствам, што якраз у тым часе пачало пранікаць на нашыя землі.

Ад прыняцьця хрысьціянства да XV в. на Беларусі бізантыйскае мастацтва было амаль усяўладным. Кажам «амаль», бо нават і ў першых беларускіх мастацкіх творах сьледны паважныя ўплывы беларускага народнага мастацтва, якія характэрызуюцца ў злагоджаньні бізантыйскае строгасьці ў паставах сьвятых. Калі-ж пачынаючы ад канца XV в. на Беларусь пачаў пранікаць стыль рэнэсансу, дык ён ня выцісьнуў бізантыйскага мастацтва, але вытварылася цікавае спалучэньне: постаці сьвятых на іконах «заруxаліся», «ажывіліся», зьявілася рэльефнасьць аблічча і цела, а праз гэта зьменшылася патрэба сымболікі. Аднак асноўныя рысы іконапіснга мастацтва асталіся.

У навейшых часох на Беларусі зьявілася мноства звычайных малюнкаў рэлігійнага зьместу, якія нярaз вешаліся на покуці побач іконаў; але гэтыя абразы і абразкі рэлігійнага зьместу лёгка адрозьніць ад іконаў.

Дзеля гэтага, калі гаворыцца аб абразох, якія маюць азнакі іконапіснага стылю, і перадусім, калі гаворыцца аб старых цудатворных абразох, якія ў мастацтве агульна называюцца іконамі, дык неабходна і трымацца гэтага назову ў дачыненьні да іх.

**а. Л. Гарошка**

# Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі

**(Працяг)**

**Забельская.** Паходзіць з XVII ст. На іконе Багародзіца забражана на ўвесь рост з Дзіцяткам на руках. Леваруч Багародзіцца крыж і сьв. Мікалай, а праваруч апосталы і сьвятыя: Альжбета, Якім і Ганна. Адносна ян пачатку ёсьць цікавы пераказ. У часе памору статку ў Случчыне селяніну з в. Забелы зьявілася ў сьне Божая Маці і казала, каб ён аддаў на ўбой адзінага вала што ў яго яшчэ астаўся, а шкуру каб занёс у Слуцк для намаляваньня іконы. Калі селянін з шкураю вала ўвайходзіў у горад, яго пераняў мастак і, узяўшы шкуру, казаў што ведае, з якім намерам селянін ідзе. Калі ікону павешана ў Забельскай царкве, памор спыніўся. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Заслаўская.** Мяйсцовая традыцыя кажа, што гэтая ікона вельмі старая, аж з X стагодзьдзя і мае зьвязок з Рагнедаю. Знайходзілася ўвесь час у царкве Ражства Багародзіцы ў Заслаўі Менскае акругі. Сьвяткаваньне 8(21) верасьня.

**Казімерская.** Паходзіла праўдападобна з XVII ст. і знайходзілася ў Усьпенскай царкве мяст. Казімераўка ў Меншчыне. За часоў Вуніі там быў манастыр і ў манастырскай хроніцы былі запісаны цуды ад 1720 да 1764 г. Па скасаваньні Вуніі ікона тайком была зьнішчана. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Каложская.** Гэта копія Віленскае одзігітрыі, зробленая ў XVII ст. Да 1853 г. яна знайходзілася ў Каложскай царкве ў Горадні, а калі тая царква часткова абрушылася ў Нёман, ікону перанесена ў Горадзенскі Барысаглебскі манастыр. Сьвяткаваньне 9(22) ліпеня.



**Каменская.** Знайходзілася ў Прэабражэнскай царкве ў в. Каменка Менскае епархіі. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Канковіцкая.** Ікона намалёвана на медным лісьце. Яе знойдзена на ліпавым дрэве ля калодзезя ў в. Канковічы каля Петрыкава ды перанесена ў мяйсцовую царкву Ражства Багародзіцы Менскае епархіі. На другім баку меднага ліста намаляваны Нерукатворны Спас. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Клецкая.** Гэта старая ікона, якая ад няпамятных часоў знайходзілася ў Пакроўскай царкве, а потым была перанесена ў Васкрасенскую царкву. Калі ў часе швэдзкае вайны швэды былі ўвялі ў царкву коні, дык іх не маглі адтуль вывесьці і пакуль ваўтузіліся з коньмі надыйшоў адзьдзел войска Рэчыпаспалітае і зьнішчыў швэдаў. Дня сьвяткаваньня ікона ня мае.

**Кодэнская.** Знайходзіцца ў мястэчку Кодно над Бугам, яе меў туды прывезьці з Рыму князь Мікалай Сапега ў 1620 г. Сьвяткаваньне 8(21) верасьня.

**Корсунская-Эфэская.** Гэта ікона, якую на просьбу сьв. Еўфрасіні Полацкае прыслалі ў Полацк імп. Мануіл і патрыях Лука. Паводля расейскіх гісторыкаў гэтую ікону ў 1239 г. дачка полацкага князя Брачыслава, выходзячы замуж за маскоўскага князя Аляксандра Неўскага, мела перанесьці ў Тарапец, дзе яна і асталася. Нават калісь меў быць сьпісаны акт аб перанясеньні. Паводля іншых вестак, запісаных у Кульчыцкага, ікону меў забраць галіцкі князь Леў і перанесьці ў Бэльзу, адкуль у 1389 г. яе перанесена ў Чэнстахову, але аб паходжаньні Чэнстахоўскае іконы ёсьць яшчэ два іншыя пераказы. Сьвяткаваньне 9(22) кастрычніка.

**Краснатоцкая.** Паходзіць з XVI ст. і знайходзілася ў Краснатоцкім жаночым манастыры Сакольскага раёну Горадзенскае акр. Дня 7. X. 1877 г. уславілася выцячэньнем міра. Сьвяткаваньне 7(20) кастрычніка і на Сёмуху.

**Крупецкая.** Да 1612 г. знайходзілася ў капліцы каля в. Крупіцы 5 км. ад Менску. Потым была перанесена ў мяйсцовую Пакроўскую царкву. Уславілася аздараўленьнем шматлікіх хворых. Сьвяткаваньне 1(14) лістапада.



**Купятыцкая**, яна так-жа называецца **Крыж Багародзіцы.** Гэта невялкі бронзавы крыж, пасярэдзіне якога рэльефна выступае постаць Багародзіцы з боскім Дзіцяткам на левай руцэ, а ў канцавінах крыжа выступаюць абразы Бога-Айца, Збавіцеля і Багародзіцы бяз Дзіцятка. Знайшла



гэты крыж у 1182 г. дзяўчынка Ганна ля в. Купятычы Пінскае акр. ў лесе, дзе пасьвіла статак. На мейсцы знахадкі пабудована царкву, калі потым татары царкву былі спалілі, дык крыж на некаторы час быў зьнік і толькі па некалькі гадох знайшоў яго падарожны Якім. У 1629 г. у Купятычах паўстаў манастыр і крыж знайходзіўся ў манастырскай царкве. Потым манахі яго перанесьлі ў Кіеў, а ў часе апошняе вайны ён знайшоўся на эмыграцыі ў праваслаўным манастыры каля Мюнхэна. Сьвяткаваньне 15(28) лістапада.

**Літвянская.** Аб ёй няма дакладнейшых вестак. Да вайны знайходзілася ў царкве Ражства Багародзіцы ў в. Літвяны Менскае епархіі. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Ляданская.** Яна з выгляду падобная да Жыровіцкае. Аб яе паходжаньні ведама, што на пачатку XVIII ст. гэтую ікону падарыла ў Дабравешчанскі манастыр у Ляданску Менскае епархіі жонка тагачаснага менскага ваяводы Тэрэза Тышкевіч. Там ікона ўславілася цудамі. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Лясьнянская.** Яе знайшоў пастух Аляксандр Стэльмашук 14 верасьня 1683 г. у густым лесе ля в. Лясьная Бельскае акругі ў Горадзеншчыне, дзе ён пасьвіў каровы разам з сваімі сябрамі. Ікона выразана на цёмным чырвоным камені авальнае формы. Ад пастуха ікону быў забраў мяйсцовы пан, але пасьля некалькі няшчасных здарэньняў у сям'і, ён перадаў яе ў царкву ў в. Буковічы каля Лясьное. Ля іконы пачалі дзеяцца шматлікія цуды. Сьвяткаваньне 14(27) верасьня і на Сёмуху.

**Малакакарміліца.** Яе знойдзена ў 1650 г. на Крэстагорскім полі 22 км. ад Менску, дзе потым



**Лясьнянская ікона Божае Маці**

пабудована царкву Усьпеньня Багародзіцы. Яе заступніцтву заўдзячваюць выбаўленьне ад няшчасьцяў падчас швэдзкае вайны і шматлікія аздараўленьньні. Сьвяткаваньне 15(28) жніўня.

**Мар'інагорская.** Мяйсцовы пераказ кажа, што цяжка хвораму Ізыдару ў в. Лядцы зьявілася Божая Маці, аздаравіла яго і загадала паставіць на недалёкай горцы крыж і царкву. Ізыдар выканаў загад і ў царкву прынёс ікону, намаляваную на палатне. Каля тае царквы ён пражыў да канца свайго жыцьця. Там паўстаў пасёлак, які на чэсьць Багародзіцы названа Марынай Горкай, потым выбудавана царкву Усьпеньня Багародзіцы. Дня сьвяткаваньня ікона ня мае.

**Менская.** Паводля старое традыцыі яе паходжаньне мае сягаць часоў апостала Лукі. Да X в. яна знайходзілася ў Корсуні. Адтуль яе меў вывезьці ў Кіеў сьв. Уладзімер. У Кіяве яна знайходзілася каля 500 гадоў у Дзесяцціннай царкве міма частых трабяжоў і разбурэньняў у часе войнаў. Калі ў 1482 г. крымскі хан разбурыў Кіеў, адзін татарскі ваяка садраў з іконы каштоўныя аздобы, а самую кінуў у Дняпро і ад таго часу праз колькі гадоў ня было ведама, дзе яна знаходзілася. Дня 13-га жніўня 1500 г. у Менску на беразе Сьвіслачы насупраць замку менскіх князёў людзі заўважылі нязвычайнае зьзяньне, якое йшло ад іконы. З пабожнасьцю знайдзеную ікону перанесена ў царкву Ражства Багародзіцы. Пры тым высьнена, што гэта была ікона з калішняе Дзесяціннае царквы ў Кіеве. У 1616 г. яе перанесена з Замкавае царквы ў базыльянскую царкву сьв. Духа. Падчас скасаваньня Вуніі гэтая царква была перахрышчана ў Пётра-Паўлаўскі сабор, у якім ікона пераіжыла часы рэвалюцыі і бяжбожных грабяжоў. Ікона даволі вялікая, паўтара мэтра высокая і мэтар шырокая. Сьвяткаваньне 13(26) жніўня.

(Заканчэньне ў наст. нумары)

# Грэцкая калегія ў Рыме і Беларусы

**(Заканчэньне)**

У папярэднім нумары часапісу на пачатку гэтага артыкулу імя кардынала першага кіраўніка калегіі падана памылкова: мае быць не Санта Сэвінэ, але Санта Сэвэріна, а для большае дакладнасьці варта дадаць, што уласьціва ён называўся Джюліё-Антоніё Сантоніно.

Варта так-жа ўдакладніць, што бібліяграфічны пяцітомны твор Э. Леграна ёсьць атульнай грэцкай бібліяграфіяй з XVII ст. і толькі трэці том гэтага твору прысвечаны вучням грэцкае калегіі.

---

Пераходзячы да найбольш цікавячага нас пытаньня: сувязі грэцкае калегіі з Беларусьсю, распачнём расказ не ад беларусаў, але ад аднаго грэка, які даўжэйшы час жыў і працаваў на Беларусі і Украіне. Называўся ён Пятро Аркудыюс. Паходзіў з абтоку Корфу і ўступіў у калегію сьв. Атаназія ў 1578 г. ды правёў у ёй 12 гадоў, здабываючы тытулы доктара філязофіі і багасловіі, У 1590 г. луцкі лацінскі біскуп Бэрнард Мацеёўскі (будучы кардынал), які вёў перагаворы аб царкоўнай Вуніі, будучы ў Рыме, узяў з сабаю Аркудыюса ў сваю епархію, каб там ён заняўся працаю для паеднаньня Цэркваў. У той час луцкім праваслаўным япіскапам быў Кірыла Тэрлецкі. Ён і Іпацій Пацей потым сталіся найгарачэйшымі прыхільнікамі Вуніі. Абодвых іх ведаў Аркудыюс даўжэйшы час перад Вуніяй і тое знаёмства бязумоўна не асталося бяз наступстваў.

Калі ў 1595 г. япіскапы Пацей і Тэрлецкі ад імя мітрапаліта і іншых япіскапаў складалі ў Рыме прысягу вернасьці Намесьніку Хрыста, там быў так-жа прысутным Аркудыюс.. Аднак ён хутка вярнуўся на Беларусь памагаць Пацею, які ў 1599 г. стаўся мітрапалітам. Насамперш Пацей даручыў яму кіраўніцтва брацкай школай у Берасьці, але потым хутка перанёс на больш адказнае становішча, кіраўніка «грэцкае« калегіі ў Вільні. Гэтая калегія была спробаю разьвязаньня балючага пытаньня асьветы для беларускага каталіцкага духавенства ўсх. абраду, каб яно ня было ніжэйшым ад лацінскага. Нажаль Аркудыюс ня доўга затрымаўся ў Вільні і хутка пасьля яго выезду, калегія замерла, але за кароткі час яе існаваньня адтуль выйшаў прынамся адзін больш ведамы дзеяч, прыяцель і спаваднік сьв. Ёзафата а. Генадзі Хмяльніцкі.

Акрамя ўзгадаваўчае працы Аркудыюс пакінуў па сабе паважны сьлед у палемічнай літаратуры ў абароне Вуніі. У 1600 г. выйшаў у Вільні ягоны твор «Антэрэзіс» — у арыгінале напісаны палаціне, а выданы пабеларуску і папольску. Іншыя ягоны творы былі выданы палаціне ў Кракаве.

Дакладная дата выезду Аркудыя з Вільні няведамая, але ўжо ў 1616 г. яго бачым зноў у Рыме, дзе хутка затрымоўваецца настала ў грэцкай калегіі. Няшчасны выпадак робіць яго калекаю на ўсё жыцьцё, пазбаўляючы ўлады ног. Гэта аднак не зламала ягонага духу і ён з тымбольшай энэргіяй бярэцца за пяро, каб служыць справе царкоўнае еднасьці. Ён-жа першы напісаў гісторыю грэцкае калегіі (4). Памёр ён у 1633 г.

Іншым грэцкім студэнтам, калегіі сьв. Атаназія, які меў сузязі з Беларусьсю, быў Нэафіт Родінос. Праўда ягоныя сувязі былі кароткімі і пераходнымі. Атрымаўшы асьвету ў грэцкай калегіі і ў Гішпаніі, ён прыехаў на Беларусь, каб атрымаць сьвятарскія сьвячаньні з рук каталіцкага япіскапа бізант. абраду. Пры гэтай нагодзе ён астаўся на Беларусі некаторы час, працаваў над пашырэньнем Вуніі і нават цярпеў за яе прасьледаваньне, але ў хуткім часе вярнуўся да сваіх суродзічаў, працуючы ў Грэцыі, Македоніі і Альбаніі.

Аркудыюс і Родінос ня былі адзінокімі грэкамі, што з калегіі ехалі на Беларусь, шмат іншых студэнтаў пайшлі за іхным прыкладам, але іхняя дзейнасьць была больш сьціплаю, дык імёны іх не захаваліся.

**Некалькі імёнаў**

Пераходзячы з чаргі да беларускіх узгадаванцаў калегіі сьв. Атаназія зачнем ад найвызначнейшага з іх: Дня 3-га лістапада 1599 г. у калегію быў прыняты новы студэнт. Ён пахадзіў з далёкае краіны, якая тады называлася Літва, а цяпер Беларусь. Гэты быў Ян (у манастве Язэп) Вэлямін Руцкі. Нарадзіўся ён у 1573 г. у Руцы каля Наваградку. Бацькі Руцкага былі фанатычнымі кальвіністамі, варожа настроенымі да Каталіцкае Царквы, таму і сына выслалі на навуку спачатку ў пратэстанцкую школу ў Наваградку, потым у такую-ж у Вільні. Па сьмерці бацькі ў 1590 г. малады Руцкі едзе здабываць вышэйшую асьвету ў Праскі унівэрсытэт, які тады быў апанаваны гусітамі. Пратэстанцкая навука і маральная атмасфэра, якая там панавала, зрабілі такое дрэннае ўражэньне на чулую і чыстую душу Руцкага, што ён тут-жа ў Празе выракся кальвінізму і стаўся каталікам лацінскага абраду. З Прагі ён пераехаў у Вюрцбург, дзе студыяваў філязофію, а адтуль у Рым у грэцкую калегію.

Пасьля чатырохгадовых студыяў у калегіі, прыняўшы на загад папы бізантыйскі абрад, Руцкі вярнуўся ў Вільню і там у 1608 г. уступіў у манастыр сьв. Тройцы, прыняўшы імя Язэпа. Тут-жа хутка становіцца архімандрытам манастыра, пасьля вікарным япіскапам мітр. Пацея, а ў

**4) P. Arcudius, Collegii Graecorum Primordia. Romae 1624.**

1614 г. мітрапалітам. Праз дваццаць тры гады (1614-1637) у бязупынных цяжкасьцях і нязьлічаных перашкодах ён змагаўся за ўтрыманьне і ўмацаваньне Вуніі на Беларусі; правёў рэформу Базыльянаў, ператвараючы іх у квітнеючы ордэн, які нічым ня ўступаў лацінскім манашым ордэнам; бязупынна стараўся падняць інтэлектуальны і духовы ўзровень свайго духавенства. Быў прыяцелем сьв. Ёзафата, а пасьля мучаніцтва гэтага апошняга шмат стараўся аб ягонай бэатыфікацыі. Руцкі быў найвялікшым з усіх беларускіх мітрапалітаў; не дарма папа Урбан VIII назваў яго Атлясам Уніі, калюмнаю Царквы.

Наступнік Руцкага на мітрапалічым пасадзе Рафаэль Корсак (1637-41) быў таксама гадунцом грэцкае калегіі. Як і Руцкі ён паходзіў з кальвінскае сям'і, але ў вельмі маладым веку стаў каталікам лацінскага абраду і ўзгадоўваўся ў езуіцкай калегіі ў Нясьвіжы. У 1620 г. ён прымае бізантыйскі абрад і ўступае да Базыльянаў. Базыльяне высылаюць яго ў калегію сьв. Атаназія ў Рым і тут ён адразу зьвярнуў на сябе ўвагу вялікімі здольнасьцямі і суровасьцю жыцьця. У 1626 г. ён стае вікарным япіскапам мітр. Руцкага, потым япіскапам Пінскім, а па сьмерці Руцкага ў 1637 г. мітрапалітам. Корсак першы напісаў біяграфію Руцкага і шмат стараўся аб бэатыфікацыі сьв. Ёзафата. У гэтай справе ён езьдзіў у Рым і там яго засьпела сьмерць у 1641 г. Пахаваны ў царкве сьв-ых Сергія і Вакха, якую дзякуючы стараньням Корсака папа Урбан VIII даў базыльянам. У гэтай царкве ягоны гроб знайходзіцца да сёньня.

Іншым выдатным беларускім узгадаванцам грэцкае калегіі сьв. Атаназія быў Антон Сялява, наступнік сьв. Ёзафата на Полацкім пасадзе, а пасьля сьмерці Корсака мітрапалітам (1642-1655). На пачатку мітрапалітаваньня Сялявы папа Урбан VIII ў 1643 г. залічыў Ёзафата Полацкага ў лік багаславёных Каталіцкае Царквы.

Між партрэтаў, якія сёньня вісяць на карыдорах грэцкае калегіі, адзін мае такі напіс: **Gabriel Kolenda Lithuanus, archiepiscopus totius Russiae**. Гэты мітрапаліт (1664-1674), які паходзіў з слаўнага старога беларускага роду, будучы ў грэцкай калегіі зьвярнуў на сябе ўвагу сваімі выдатнымі здольнасьцямі. Калі ўжо быў Віцебскім япіскапам, уславіўся абаронаю мошчаў сьвятых Ёзафата і Казімера перад маскалямі і швэдамі, якія тады руйнавалі Беларусь.

Два наступныя мітрапаліты: Кіпрыян Жохоўскі (1674-1693) і Леў Сьлюбіч-Заленскі (1694-1708) вучыліся таксама ў калегіі сьв. Атаназія ў Рыме. Мітр. Заленскі быў родам з Валыні і ён быў першым мітрапалітам усх.-каталіцкае Царквы украінскага паходжаньня, усе іншыя яго папярэднікі былі беларусамі. І ўсе яны, пачынаючы ад 1614 г. атрымалі асьвету ў грэцкай калегіі.

Акрамя мітрапалітаў з муроў гэтае калегіі выйшла шмат іншых выдатных рэлігійных дзеячоў. Вось некалькі з іх: Ільля Марахоўскі япіскап Уладзімерскі і Берасьцейскі (1618-1631), ягоны партрэт знайходзіцца сёньня ў калегіі; Леў Крэўза-Жэвускі (1625-1639) япіскап Смаленскі; Пахом Аранскі (1637-1653) япіскап Пінскі; Андрэй Злоты-Квасінскі (1640-1654) япіскап Смаленскі, а пасьля заняцьця маскалямі Смаленску яп. Пінскі (1654-1655); япіскап Нікіфар Ляхоўскі; протоархімандрыты: Сымон Кіпрыяновіч, Якім Кушэліч, Лаўрын Друцкі-Сакалінскі — гэта важнейшыя імёны выбраныя з масы іншых.

Ня ўсім беларускім студэнтам з грэцкае калегіі прышлося лабачыць зноў сваю бацькаўшчыну; некоторыя з іх памерлі ў цьвеце гадоў у Рыме; між імі не адзін вызначаўся сваімі здольнасьцямі, як напрыклад Андрэй Падбярэскі, якога Руцкі хацеў мець сваім вікарным япіскапам.

Гэтых колькі заўвагаў бязумоўна ня вычэрпваюць пытаньня сувязі грэцкае калегіі з Беларусьсю, але іх дастаткова, каб бачыць, як шмат яна прыслужылася для нашае Царквы.

Сёньня, пасьля амаль двухвяковага перарыву, калегія сьв. Атаназія, аднаўляючы старую традыцыю, зноў адчыніла гасьцінна свае дзьверы для беларусаў і гэтым разам бяз ніякага абмежаваньня як для манахаў, так і для сьвецкіх кандыдатаў на сьвятароў.

**А. Н.**

# Адважны крок

**(Працяг да апавяданьня «Няведамыя шляхі» ў Нр. 55)**

Шэрае вясковае жыцьцё быццам наўмысьля стараецца зраўняць прынамся хоць павярхоўна ўсіх тых, каго прыкрывае аднолькавая саламяная страха і аднолькавая зрэбная шэрая вопратка. У грамадзе такіх «шэракоў» пастушкоў нічым ня вырозьніваўся ад іншых Андрэйка Протас. Ён разам з сваімі равесьнікамі пасьвіў каровы, а час ляцеў і Андрэйка нават не заўважыў, як хутка мусіў перадаць пастушую пугу свайму малодшаму брату Габрусіку, а сам мусіў прыкладацца да гаспадаркі. Але плуг, барана і каса былі зацяжкія для яго кволых юнацкіх рук. Затое ў пачаткавай школе для яго ня было цяжкасьцяў. І калі Андрэйка быў у апошняй клясе, настаўнік колькі раз казаў андрэйкавай маці Зосі, каб паслала сына вучыцца далей, але не налягаў моцна на гэтай прапанове, бо бачыў, што яна — бедная ўдава — не спраможацца на гэткі крок. Праўда з суседняе

вёскі Семакі ўжо ад колькі гадоў некалькі гаспадароў пасылалі сваіх дзяцей у блізкае мястэчка Замчышча, але гэта былі багацейшыя ў вёсцы гаспадары.

Андрэйка няраз бачыў тых хлапцоў з Семакоў, што хадзілі ў Замчышча, як яны штодзенна рана прайходзілі тым гасьцінцам, ля якога ён пасьвіў статак. Бывала доўга, доўга глядзеў усьлед за імі, аж пакуль іхныя постаці не хаваліся за ўзгоркам, і тады думаў сабе: вось яны цяпер бачаць, што там за тым узгоркам, а далей убачаць, што за наступным узгоркам, а яшчэ далей у школе ўбачаць яшчэ больш; добра ім... Толькі вось гэтае «дабро» мае ці адну прыкрасьць: хадзі дзень-у-дзень так далёка, ці на дварэ сонца, ці вецер, ці дождж; адно на зіму кватэру ў мястэчку наймаюць...

Толькі Бог адзін ведае, якая-б была доля Андрэйкі, але якраз як ён кончыў пачатковую школу, распачалася частковая парцэляцыя для польскіх асаднікаў недалёкага аграмаднага панскага маёнтку. Сьцяпан Рупейка, дзядзька Андрэйкі прайходзіў аднойчы каля новае асады і так у яго ў грудзёх штосьці заварушылася, што ня мог вытрываць, каб з кім не падзяліцца сваімі пераажываньнямі. Доўга ён гаварыў аб гэтым з сваею жонкаю, а вечарам прыйшоў да свае сястры Зосі, каб і перад ёю яшчэ выказаць свой горкі жаль.

— Ведаеш Зося — гаварыў Сьцяпан нязвычайным цьвёрдым тонам — гледзячы на гэтую навалач, аж сэрца крывёю абліваецца. Тут і тутэйшым людзям няма дзе здабыць куска хлеба, загоны так звузелі, што як ляж упоперак, дык калі ня ногі то галава на суседавым полі будзе, а тут на табе! наляцелі з гэтым ворлікамі, каб нам жыўцом вочы павыдзіраць!

— Што-ж ты зробіш, іхняя сіла, іхняе і права — з сумам у голасе казала Зося.

—У нас так-жа сілы нямала, але бяда, што яна на вецер ідзе. — загарачыўся Сьцяпан.

— Папрабуй паасыкацца, дык і вецер костачкі твае разьвее.

Сьцяпан змоўчаў на тэта і нешта думаў, гледзячы на Андрэйку, які штосьці стругаў, стоячы моўчкам каля печы.

— Слухай Зося — раптам зьмяніўшы голас азваўся Сьцяпан — а што ты думаш рабіць з Андрэйкам?

— А што-ж з ім рабіць?! Хай вось прывучаецца да гаспадаркі.

— Якая тут гаспадарка! А як падрастуць Аленка і Габрусь, дык што ты іх у парабкі асаднікам пашлеш?!

— Або я ведаю?

— Вось што Зося, ты-ж няраз казала, што з Андрэйкі гаспадар ніякі, што яго да гаспадаркі ня хіліць, а каля кнігаў дык-бы днаваў і начаваў, дык пасылай яго ў Замчышча, хай вучыцца далей.

— Сьцяпан, та гаворыш як блазан! За што-ж я яго буду вучыць, калі ня ведаю як на зіму вопратку і абутак для ўсіх прыстарацца?!

— З вопраткаю і абуткам ты лішне не бядуй. Сёлета ў цябе сарадэла ўдалася як ні ў кога, а яна цяпер у цане, дык вось як абмалоцім то хопіць ня толькі на лапці і аборы, але яшчэ і на кнігі астанецца.

— Яно то праўда, што сёлета сарадэля ўдался і лён, дзякаваць Богу, нязгоршы вырас, каб адно даў Бог здароўе давясьці яго да толку, дык можа неяк канцы з канцамі сточым, але ці-ж заўсёды так будзе?! А ў школу пасылаць гэта-ж не на адзін год — гаварыла Зося, а ў душы жадала, каб брат разьбіў усе яе засьцярогі, бо даўно лятуцела аб тым, каб яе сын «выйшаў у людзі». Сьцяпан гэта адчуў і аж ускочыў з лавы.

— От Зося, ты ня выбышкай! Тое ды гэта, ды няма ведама што. Парабкаў для асаднікаў гадаваць будзеш, га? Чакай пакуль цябе нехта прыйдзе ды папросіць: «Зрабі ласку, пашлі сына вучыцца, хай сьвет убачыць». Не дачакаеш гэтага, не такі цяпер сьвет настаў. Ніхто прасіць ня будзе, а яшчэ баржджэй калоду пад ногі падкінуць, калі будзеш дзяцей на лепшую дарогу накіроўваць. Вось шлі Андрэйку ў Замчышча, ды няхай вучыцца сам тыя калоды абыходзіць і можа потым іншым паможа на лепшую дарогу выйсьці. Даў Бог яму здольнасьць да навукі, дык быў-бы вялікі грэх, каб змарнаваць гэты Божы дар...

Маці маўчала і глядзела на сына, а ён спусьціўшы галаву сядзеў на лаве, ментаючы ў руках ножык струганчык.

— Ну Андрэйка, хочаш ісьці ў Замчышча? — па хвіліне маўчаньня пытался маці з нейкім дзіўным дрыжаньнем голасу.

— А чаму-ж не — адказаў ён, ня гледзячы на нікога.

— Малайчана! — амаль крыкнуў ад радасьці Сьцяпан, ляпаючу Андрэйка па плячы. — А ты аб сваім полі не бядуй — зьвярнуўся да сястры — я не за гарамі і хопіць у мяне яшчэ мазалёў і поту і на твае загоны. Пакуль Габрусік і Аленка падрастуць, дык горш як цяпер ня будзе. Дзяцей сваіх ня маю (ён быў бязьдзетны), дык хоць тваім памагаць буду.

І восеньню Андрэйка далучыўся да гуртка хлапцоў, якія з Семакоў штодзенна хадзілі ў Замчышча. Калі ён першы дзень пайшоў, маці доўга стаяла ў варотах не адводзячы вачэй ад сына, аж пакуль ён ня зьнік за паваротам дарогі, а потым яна выйшла на загуменьне і яшчэ прыглядалася ў кірунку гасьцінца. Калі невялічкі гурток хлапцоў паказаўся на ўзгорку, яна шаптала:

— Андрэйка ў сярэдзіне...

Гурток зьнік за ўзгоркам, маці ўцерла хусткаю вочы і вярнулася ў хату, але нейкі час не магла знайсьці сабе работы, а папалудні некалькі разоў

выходзіла на загуменьне і ўглядалася на гасьцінец.

Колькі гутаркі было ў вёсцы Стараброды аб тым, што ўдава Зося паслала сына ў навуку, дык гэтага мусіць і цётка Палагея не патрапіла-б пераказаць, хоць яна магла гаварыць цэлы дзень без адпачынку.

І сам Андрэйка меў аб чым гаварыць сваім сябром, калі часам вечарамі заходзіў да іх на пасядзенкі. Слухалі яго ўсе з цікавасцю, але адны падзіўлялі яго, іншыя заздросьцілі і толькі найлепшы ягоны сябра Барыс Хадун моцна шкадаваў, што цяпер ня мог быць разам з ім. Для багацейшых гаспадароў учынак беднае ўдавы быў цяжкім дакорам, бо чаму яны не маглі зрабіць чагосьці падобнага? а для іншых гэта было проста безгалоўем, аднак знайшліся і такія, што спачувалі Зосі. Вось тая самая цётка Палагея прынесла Зосі сьвежы сыр, каб было што даць Андрэйку на абед з сабою, а нават і такія знайшліся, што пачалі думаць, каб на будучы год і сваіх дзяцей паслаць у Замчышча.

**А. Жменя**

(Працяг будзе)

# Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Лёндане

Ад часу, калі беларусы ў большай колькасьці зьявіліся ў В. Брытаніі, ня было такое групкі, якая-б ня ладзіла ўрачыстасьцяў для ўшанаваньня ўгодкаў абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. На іх чыталіся даклады, сьпяваліся песьні, запрашаліся госьці — але ўсё гэта паволі прымала форму шаблёну і тым самым зацікаўленьне зьменшвалася.

Сёлета зьявілася шчасьлівая думка: зьмяніць шаблён. Ці не ўдалося-б скаардынаваць як грамадзкія так і артыстычныя сілы?

На працягу трох месяцаў ішла ажыўленая перапіска між ЗБВБ, Лювэнскім ансамблем ды артыстамі з Рыму і Нямеччыны. Сьмелая ініцыятыва ўзяла верх і 24 сакавіка лёнданскія беларусы сустракалі на санцыі Вікторыя Лювэнскі ансамбль і госьцяў з Рыму і Нямеччыны. Брацка-радасны настрой на абліччах прыехаўшых і тых, што іх спатыкалі быў нібы пачаткам сакавіковых урачыстасьцяў. З гэткім настроем усе гуртам зьявіліся ў Беларускі Дом — гэтым разам ён быў зацесны, але затое тымбольш гасьцінны.

Крыху падсілкаваўшыся, устаноўлена дакладны парадак імпрэзаў і госьці разьехаліся па Лёндане — кожны з іх меў вызначанае памешканьне, дзе забясьпечана начлег і харчаваньне.

Назаўтра 25. III. папалудні ўсе сабраліся ў Доме айцоў Марыянаў і адтуль накіраваліся ў Хрыст Хорал Гол на Фінчлей. Туды ўжо паволі сходзіліся спакойна-флегматычныя ангельцы — што-ж для іх гэта звычайны дзень. Беларусам крыху ніякава, што гэтак мала цікавяцца канцэртам... Але пабачым, што будзе ў салі. Выбіла 7-я гадзіна вечара — пунктуальна зьяўляецца бурмістр Гордон Брайсан з прадмесьця Фінчлей ў таварыстве жонкі і 21 радных. Бурмістр прыйшоў афіцыяльна з усімі азнакамі свайго стану. Яго прывіталі старшыня ЗБВБ П. Асіповіч, сакратар Ангельска-Беларускага Таварыства Вэбстэр і а. Сіповіч. За пару хвілін саля напоўнілася людзьмі. Між прысутнымі былі ангельскія сьвятары розных веравызнаньняў і групы: гішпанцаў, ірляндцаў, немцаў, палякаў, расейцаў і інш.

На сцэну, упрыгожаную ангельскім і беларускім сьцягам ды пагоняй, выйшлі харыстыя; кідаюцца ўсім у вочы іхныя белыя вышываныя кашулі і чырвоныя паясы. Урачыста разьлягаецца мэлёдыя беларускага нацыянальнага гымну — усе прысутныя на чале з бурмістрам стаюць на зважай.

Перад хорам зьяўляецца на сцэне сакратар Ангельска-Беларускага Таварыства Д. Г. Вэбстэр вітае хор і артыстаў ды выясьняе аўдыторыі галоўныя этапы з гісторыі Беларусі. Робіць гэта тыпова па-ангельску: коратка і рачова. Зрэштаю кожны ў руках мае праграму з картаю Беларусі і лісток з кароткім гістарычным і геаграфічным нарысам. Далей хор пад кіраўніцтвам К. Кіслага выканаў пару літургічных і беларускіх народных песьняў — аўдыторыя слухае ў захапленьні. Вось разьлягаецца магутнае басавае солё — П. Конюх выконвае адну арыю з опэры «Дон Карлос» — для шмат каго мэлёдыя ведамая, але выкананьне — гэта рэдкае мастацтва. Далей ён сьпявае «Лявона» і «Сьвеціць месяц» — захапленьне расьце. Народны танец «Крыжачок» на заканчэньне першае часткі на дадатак ажыўляе ўсіх. Пры фартэп'яне ўвесь час акомпаньяваў праф. Ал. Карповіч.

У перапынку ад імя ЗБВБ паднесена бурмістру невялікі падарак: скрыначку для папяросаў, інкруставаную ў беларускім нардным стылі і з надпісам калі і ад каго яе перадана, як выяў удзячнасьці ангельцам за прыняцьце ў сябе беларусаў. Бурмістр прыняў з кароткім «дзякую», але відаць быў глыбока ўзрушаны.

Другая частка канцэрту распачалася «Баляй» напісанай і выкананай А. Карповічам. Яе глыбокі зьмест і мастацкае выкананьне былі вельмі добрым пачаткам. На зьмену хор, дуэт (У. Цьвірко і Ю. Сенькоўскі), а потым народны танец «Мяцеліца» то чаравалі, то захаплялі слухачоў. Але вось на сцэне зьявіўся П. Конюх — магутнасьцю свайго голасу і дакладнасьцю выкананьня

ён дaслоўна паланіў усіх. Якое ўражэньне ён пакінуў па сабе, могуць сьведчыць словы жонкі бурмістра, якая аўтару гэтых радкоў казала пасьля канцэрту. «Перадайце вашаму сьпеваку мае словы: Я часта хаджу ў Альбэрт Гол (найбольшая саля ў Лёндане) на канцэрты, але такога баса яшчэ ня прышлося пачуць».

«Камар», «Пагоня» і «Лявоніха» былі прыгожымі надбудоўкамі да солё П. Конюха. Калі канцэрт даходзіў да канца і калі хор ужо рыхтаваўся адсьпяваць ангельскі нацыянальны гымн, на сцэну выйшаў бурмістр і сказаў: «Беларусы, пакідаючы Фінчлей, пакінуць за сабою жаль, што так хутка выязджаюць. Ад імя ўсіх тут прысутных дзякую за гэтак прыгожа зладжаны канцэрт. Наша краіна мае ўжо традыцыю, што мы заўсёды чуемо сымпатыю да паняволеных народаў, чуемо яе і да вас. Дзякую!» Некалькі дзён пасьля бурмістр прыслаў ліст на імя а. Ч. Сіповіча, у якім між іншым піша: «Спадарыня бурмістр, я і ўсе нашы сябры былі вельмі ўсхваляваныя канцэртам, ладжаным беларускім студэнцкім хорам у мінулы чацьвер і дзякуем вам за даную нам нагоду пабачыць яго...»

Для арганізатараў канцэрту гэта было мілай неспадзеванкай, як такою-ж неспадзеванкаю быў факт, што саля ў Фінчлей была поўная, хоць слухачамі былі амаль выключна чужынцы, бо беларусы з правінцыі не маглі на той дзень прыехаць у Лёндан, а лёнданцы так-жа мелі працоўны дзень.

Наступнага дня 26 сакавіка Ангельска-Беларускае Таварыства супольна з ЗБВБ ладзіла прыняцьце ў Браўнс Готэль. На яго было запрошана больш сотні чалавек, прадстаўнікоў розных нацыяльнасьцяў і амаль усе яны прыйшлі. Між імі было трох гэнэралаў і некалькі вышэйшых афіцэраў, некалькі прафэсароў, прадстаўнікоў з ангельскага Міністэрства замежных спраў, шмат прадстаўнікоў экзыльных урадаў, ангельскую арыстакрацыю рэпрэзэнтаваў лёрд Кінрос, было так-жа некалькі і іншанацыяльных духоўных. Аб гэтым прыняцьці зьявілася цікавая зацемка ў газэце «Дэйлі Тэлеграф» з 27. III. 54. у якой газэтны карэспандэнт, пераказаўшы коратка аб самым прыняцьці і студэнцкім хору, казаў: «Паміж сьпевакамі ёсьць бас, як мяне запэўнілі, ня меншы ад вялікага Шаляпіна».

Уласьцівае сьвяткаваньне Сакавіковага Дня адбылося 28. III. Раніцаю гэтага дня а гадз. 9. ў капліцы айцоў Марыянаў а. Робэрт і а. Чэслаў адправілі ўрачыстую Службу Божую для каталікаў, а а. Аляксандар а той-жа гадзіне для праваслаўных. Папалудні а гадз. 7,30 адбыўся велічны канцэрт ў салі Вэстмінстэрскае катэдры. Ужо а 7 гадз. саля і балькон былі поўныя. Пунктуальна перад пачаткам у салю ўвайшоў Яго Эмінэнцыя Кардынал Б. Гріффін разам са сваім сакратаром і заняў першае мейсца між пачэсных госьцяў, між якімі было некалькі вышэйшых каталіцкіх ерархаў, шмат высокіх ангельскіх дзеячоў і некалькі прадстаўнікоў заходнеэўрапэйскіх і экзыльных урадаў.

Праграма канцэрту была такая-ж як 25. III. у Фінчлэй. Спікэрам быў сакратар Ангельска-Беларускага Таварыства Д. Г. Вэбстэр. Харавыя песьні, танцы, дуэты, музыка і выступы солё ў мастацкім выкананьні збуджалі ў слухачоў узрастаючае зацікаўленьне і доўганезмаўкаючыя воплескі. Між слухачамі было нямала сапраўдных артыстых і крытыкаў і ўсе яны захопліваліся прыгажосьцю беларускіх мэлёдыяў і майстэрствам выкананьня. Некаторыя мамэнты з канцэрту будуць сапраўды незабыўныя. Калі публіка дамагалася ад П. Конюха, каб адсьпяваў яшчэ штоколечы на біс, ён выйшаў на сцэну і сказаў: «А цяпер беларуская народная песьня «Палыночак»» і — паплыла мэлёдыя такая мілая, але і такая магутная, што сама без разуменьня слоў прамаўляла кожнаму.

На канцэрт у салю Вэстмінстэрскае катэдры прыйшлі беларусы з Лёндану ад усіх арганізацыяў і тыя, што не належаць да ніякае арганізацыі і ўсе бяз ніякіх згавораў адчувалі адно: красу і веліч свае песьні, няцыянальныя дасягненьні нашага любэнскага ансамблю і нашых мастакоў. У цяжкіх абставінах працаваў над сабою Пётра Конюх, дагэтуль яшчэ ў цяжкіх абставінах жыве праф. А. Карповіч і дагэтуль яшчэ працуе ў шахце К. Кіслы, аднак ахвярнасьць, воля і талент перамагаюць усе перашкоды.

Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Лёндане пакінулі на ўсіх глыбокае ўражэньне і бязумоўна не астануцца бяз сьледу ў ангельскіх дзяржаўных кругох. Арганізатары хоць мелі шмат турботаў і вельмі шмат клопатаў, але могуць мець сьведамасьць добра выкананга абавязку адносна свае дарагое бацькаўшчыны.

**а. Ч. Сіповіч**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ ПАПЫ ПІЯ XII ЗА 1953 ГОД

Як штогод, так і сёлета Бюро Ватыканскае Прэсы апублікавала лікавыя даныя аб дзейнасьці Сьвяцейшага Айца Пія XII за мінулы год. Калі прыняць пад увагу век Сьвяцейшага Айца (78 гадоў), дык ягоная дзейнасьць за 1953 г. была надзвычайна актыўная. За год адбылося дзьве доўгія і вычэрпваючыя цэрэмоніі. У груповых аўдыенцыях ён прыняў 381.534 асобы (летась 457.797).

За гэты час ён сказаў 84 прамовы; з іх 34 паітальянску, 29 пафранцуску, 8 панямецку, 5 паангельску, 4 палаціне, 3 пагішпанску і 1 папартугальску. Апублікаваў 2 энцыклікі, адну канстытуцыю адносна вячэрніх Службаў Божых. Акрамя гэтага прыняў шматлікіх дыпляматаў, нунцыяў і інш. у прыватных аўдыенцыях. За мінулы год устаноўлена дыплёматычныя сувязі з Сірыяй, падпісана новы канкандартат з Гішпаніяй, выслана паважную помач для ахвяраў стыхійных няшчасьцяў. Ужо пятнаццаты год кіруе Сьвяцейшы Айцец Пій XII Апостольскім пасадам з неслабеючай актыўнасьцю. На пачатку гэтага году прышла была трывожная вестка аб паважнай хваробе Сьвяцейшага Айца, але дзякаваць Богу апошнія весткі гавораць аб азлараўленьні.

## УГОДКІ КАРАНАЦЫІ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА.

Дата 12 сакавіка штогод азначаецца рознымі ўрачыстасьцямі, бо гэта дзень каранацыі сучаснага Сьвяцейшага Айца Пія XII. Сёлета якраз споўнілася 15 гадоў ягонага пантыфікату і з гэтае нагоды ўва ўсім каталіцкім вольным сьвеце адбываліся прынагадныя урачыстасьці. Найбольш урачыста гэты дзень азначана ў Рыме. Нажаль з прычыны хваробы Сьвяцейшы Айцец ня мог асабіста ўдзельнічаць у гэтых урачыстасьцях. Службу Божую ў Ягоным намераньні адправіў у Сыкстынскай капліцы Я. Эм. Кардынал Мацэльля — першы кардынал назначаны сучасным Сьвяцейшым Айцом.

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС МАЛЫХ СЬПЕВАКОЎ.

Хто ня чуў у Зах. Эўропе сьпеву гэтых прыгожых юнакоў, апраненых у бель з дзераўляным крыжам на грудзях?. А калі чуў, дык не забудзецца ніколі іхняга сьпеву, што з дзіцячаю шчырасьцю не шкадуе ніякіх сілаў для ўслаўленьня Усемагутнага Бога. Вось гэтыя малыя сьпевакі Дзераўлянага Крыжа мелі сёлета ў Рыме між 20 і 25 красавіка свой міжнародны кангрэс. На гэты час зьехалася ў Рым каля 4.200 сьпевакоў з 19 краінаў. Працы кангрэсу суправаджаліся рознымі ўрачыстасьцямі, запачаткаванымі ўрачыстай Службай Божай, якую адправіў Я. Эм. Кардынал Тіссэран — як афіцыяльны дэлегат Сьвяцейшага Айца на Кангрэс.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ МІЖНАРОДНЫХ КАТАЛІЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ.

Прадстаўнікі 31 міжнароднае каталіцкае арганізацыі адбылі сёлета ў Парыжу супольную канфэрэнцыю з удзелам больш 200 дэлегатаў і прадстаўнікоў ад вышэйшых царкоўных і сьвецкіх установаў. Галоўнаю тэмаю канфэрэнцыі было: узьдзеяньне мадэрнае тэхнікі на чалавека. Практычныя выснаўкі канфэрэнцыі маюць на ўвеце актывізацыю апостальства сьвецкіх ува ўсіх кругох грамадзтва.

## ПЕРАПІС АДНОСНА РЭЛІГІЙНЫХ ПРАКТЫКАВАНЬНЯЎ У ПАРЫЖУ.

Ува ўсіх цэрквах і капліцах Парыскае і Вэрсальскае дыяцэзіяў сёлета 14 сакавіка адбыўся агульны перапіс усіх вернікаў, што ўдзельнічалі ў багаслужэньнях. Вынікі гэтага перапісу будуць ведамыя за пару месяцаў і дадуць дакумантальны матэрыял адносна духовых патрэбаў вернікаў адпаведна да іхняга веку, заняткаў, асяродзьдзя і асьветы.

## ГІШПАНСКІЯ ДЗЕЦІ МОЛЯЦЦА ЗА НАРОДЫ З-ЗА ЗЯЛЕЗНАЕ ЗАСЛОНЫ.

Галоўная Рада Гішпанскіх Жанчын запрапанавала сёлета дэлегатам Каталіцкае Акцыі Дзяцей, каб яны ў кожнай дыяцэзіі адаптавалі адну з нацыяў з-за зялезнае заслоны, дзе Царква знайходзіцца ў маўчаньні і каб дзеці ахвяроўвалі за выбраную нацыю і Царкву свае малітвы, ружанцы, паводзіны, пільнасьць і свае дробныя пакутныя ўчынкі. Прапанова была ахвотна прынятая. Першы прыклад далі дзеці з Більбао, а за імі пайшлі гарады і цэлыя дыяцэзіі, адаптуючы сабе цярпячыя народы, як асаблівы выяў салідарнасьці ў Марыйскім Годзе.

За кароткі час адаптована: Польшча — у Більбао і Тэруэль, Мадзяршчына — у Толедо і Таразона, Эстонія — у Сорыя, Харвацыя — у Бадахоз, Кітай — у Пальма Малёрка і Чюідад Родріго, Усходняя Нямеччына — у Гранадзе, Расея — у Маляга, Румынія — у Качэрэс, Украіна — у Мадрыдзе, **Беларусь — у Фэрроль,** (дыяцэзія Мондоньедо), Латвія — у Сант'яго ді Компостэля, Баўгарыя — у Лёграно, Грузія — у Сантандэр.

Яшчэ маюць быць адаптаваныя: Летува, Славакія, Славэнія, Сэрбія і Чэхія.

## САЛІДАРНАСЬЦЬ З ЦЯРПЯЧЫМІ НАРОДАМІ.

Гішпанскі народ, перажыўшы ў сябе кароткую, але вельмі крывавую бальшавіцкую ўладу, разумее лепш за іншых тых, што сёньня знайходзяцца за зялезнаю заслонаю. Для выяўленьня салідарнасьці з цярпячымі народамі дня 19 красавіка адбылася ў Мадрыдзе велічная акт-дэманстрацыя ў салі Гішпанскага Нацыянальнага Навукова-Дасьледчага Інстытуту. У прэзыдыю акту ўвайходзілі: Апостальскі Нунцый у Гішпаніі Я. Э. Антоніуті, Міністар Замежных Спраў Гішпаніі, Міністар Юстыцыі, старшыня Дзяржаўнае Гішпанскае Рады, Старшыня Міжнароднае Каталіцкае Мужчынскае Фэдэрацыі, Я. Э. Вікарр, Я. Э. Павіні з Апостальскае Нунцыятуры а так-жа прадстаўнікі ад паняволеных народаў (якіх рэпрэзэнтавалі студэнты з міжнароднае калегіі) з сваімі сьцягамі ў руках; яны рэпрэзэнтавалі: Балтыйскія дзяржавы, **Беларусь,** Кітай, Мадзяршчыну, Польшчу, Румынію, Славаччыну, Славэнію, Украіну, Харвацыю і Чэхію.

Вялікая саля была перапоўнена ўшчэрць. Прысутнічалі дыплёматычныя прадстаўнікі некаторых заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў і шматлікія прадстаўнікі з высокіх навуковых і грамадзкіх кругоў.

У сваіх прамовах аратары, паказваючы на сьцягі паняволеных краінаў, казалі, што гэта сьцягі зьлітыя крывёю ў змаганьні за свае прыродныя і людзкія правы ды заклікалі гішпанскае грамадзтва ў меру сваіх магчымасьцяў памагчы гэтым народам у няшчасьці і падтрмаць іхнюю барацьбу.



**КРЫЖОВАЯ ДАРОГА ЗА ПРАСЬЛЕДАВАНУЮ ЦАРКВУ.**

Мужчынскі Дыяцэзальны Камітэт Каталіцкае Акцыі ў Мадрыдзе зарганізаваў 14 красавіка на пляцу дэ ля Армэрыя аграмадную Крыжовую Дарогу за прасьледаваную Царкву і народы за зялезнаю заслонаю.

На трыбуне сярод пляцу стаяў аграмадны дзераўляны крыж, а каля яго былі ўстаноўлены мікрафоны гішпанскага Нацыянальнага Радыё.

Кожная станцыя Крыжовае Дарогі уасабляла адну з паняволеных краінаў і пры кожнай з іх было двох прадстаўнікоў тае краіны; адзін трымаў крыж, а другі плякат з назовам краіны. Першая станцыя была прызначана Беларусі. — (На здымку відаць пачатак Крыжовае Дарогі з беларускім прадстаўніком). Які вымоўны сымбаль для тае краіны, што першая сталася ахвяраю расейскага імпэрыялізму!

Аграмадны паход, у якім удзельнічала каля 1.500 мужчын, затрымоўваўся 10 мінут каля кожнае станцыі, адмаўляў малітвы і выслухоўваў праз мікрафон спэцыяльную малітву за той народ, якому была празначана станцыя і якую чытаў а. Гарао, а пасьля прадстаўнік данае нацыі чытаў праз мікрафон «Ойча наш» і «Прывітана будзь» у роднай мове. Малітва за Беларусь канчалася заклікам да нябеснае Валадаркі, каб малілася за волю Беларусі.

Гэтая глыбоказьмястоўная рэлігійная маніфэстацыя адбілася гулкім рэхам на старонках гішпанскае прэсы.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Новы этап вылюдненьня Беларусі

Не дарма нядаўна скасавана на Беларусі 5 вобласьцяў — у гэтым-жа часе створана новыя вобласьці ў Сібіры, гэта бяз лішніх паясьненьняў кажа аб тым, дзе ўзрастае насельніцтва. Але да гэтага часу хоць у Сібір высяляліся назьлічаныя масы людзей, усё-ж няэьмерныя абшары там пуставалі, бо большасьць выселеных была прызначана на павольную сьмерць. Апошнім часам відавочна бальшавікі зьмянілі тактыку і абвесьцілі «дабравольнае» перасяленьне для асваеньня адлюжных зямель паўночнага Сібіру, Уралу, Паволжа і Казахстану і павялі прапаганду пераважна між моладзі, каб ехалі туды на сталае жыхарства. Зразумела, што ардазу зьявіліся тысячы «дабравольных» заяваў. Як паведамляе «Звязда» з 7. III. сакратар камасамолу БССР Машэраў хваліўся ў Маскве, што за некалькі дзён на абшары БССР сабрана 3.500 заяваў. А колькі назьбіраюць да канца кампаніі!?



**У далёкі сьвет з роднае Беларусі. — Гэта абразок з 1944 г., але і сёньня ён паўтараецца, толькі ў адменнай форме.**

### Армія дармаедаў

Калісь бальшавіцкая бязбожная прапаганда спэцыяльна любавалася ў падчыркваньні ліку «служыцяляў культу», але якія-ж гэта былі сьмешна маленькія лікі, калі іх прыраўняць да ліку камуністычных агітатараў. Як падае «Звязда» з 13 лютага, першы сакратар камун. партыі БССР Патолічаў казаў на сёлетнім зьезьдзе першых сакратароў райкомаў, што для праваджаньня палітычнае ра-

боты сярод насельніцтва прыцягнута звыш 175.000 агітатараў, з іх больш 120.000 вядуць агітацыйную работу ў вёсцы. Праўда, ён зазначыў, што яны часта вядуць сваю работу на назкім ідэйным узроўні. Але як можна падняць тое, што само ў сабе нізкае.

**Наступ на душу беларускае моладзі ўзрастае**

Сёлета 4 і 6 сакавіка адбыўся ў Менску XVIII зьезд камсамолу БССР. Першы сакратар гэтае арганізацыі Машэраў у сваёй справаздачы хваліўся, што цяпер яны маюць 671.586 камсамольцаў. Каб усьведаміць сабе, што кажа гэты лік, трэба ведаць, што ў 1926 г. у БССР (тады толькі ўсходняй) было ўсяго 49.782 камсамольцы; у 1949 г. іх было 316.851 (паводля Бол. Сов. Энц.) у 1950 — 112.356 (паводля Машэрава), у 1952 — 511.090. Калі гэтыя даныя праўдзівыя, дык выглядае, што вядзецца востры наступ на беларускую моладзь — яе масава і сіламоц уцягваюць ў рады камсамолу і потым масава чысьцяць. Аб гэтым сьведчаць і скокі ў росьце сяброў і неверагодныя лікавыя даныя. Напрыклад той-жа Машэраў хваліўся, што ад 1952 г. было прынята 315.000 сяброў, але ў сапраўднасьці за гэты час іх прыбыло толькі 160.496, значыць, што ў міжчасе або мусіла дзесь зьнікнуць 154.500 камсамольцаў, або агулам гэтыя даныя ёсьць толькі агітатарскаю хлусьнёю, але і ў адным і ў другім выпадку маецца дачыненьня з узмоцненым наступам на беларускую моладзь.

**«Гэта іншая справа»**

Дырэктарка Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК Кам. Парт. Беларусі Ф. А. Новікова, прамаўляючы на 21 зьезьдзе кампартыі БССР 13 лютага між іншым казала: «У работах Інстытуту выкрываюцца буржуазныя нацыяналісты, якія прабавалі затушаваць барацьбу клясаў, імкнуліся пасеяць адчужанасьць паміж беларускім і рускім народамі, зьменшыць вядучую ролю рускага народу ў разьвіцьці Беларусі». Значыць нават найменшы праяў аб'ектыўнага падыходу да беларускае гісторыі расейцы лічаць за карыгодны буржуазны ўхіл, але шавіністычны расейскі нацыяналізм можа спакойна верхаводзіць усюды і з зазнайствам балбатаць аб «вядучай ролі» расейцаў.

**Антысэміцкая хваля ня мінула БССР**

Калі два гады таму была ўзьнялася ў СССР антысэміцкая хваля, дык ня было ніякіх вестак наколькі гэтая хваля ахапіла БССР. Цяпер з прынагадных успамінаў аб імёнах кіраўнікоў розных установаў на старонках «Звязды» можна сьцьвердзіць факт, што ў тым часе ў БССР жыдоў павыкідвана з вышэйшых кіруючых становішчаў і наколькі можна дагадвацца з прозьвішчаў, на іх мейсца панасаджвана расейцаў. І так на мейсца Ісаака Лейбавіча Чорнага — старшыні дзяржаўнае пляновае камісіі, назначана ў 1953 г. Сяргея Малініна; на мейсца І. Чымбурга — рэктара Менскага унівэрсытэту назначана К. І. Лукашова; на мейсца М. Шнайдэрмана — дырэктара Беларускага Тэатру Опэры і Балету назначана Якава Лаўрэньцевіча Лубянога. Аднак агулам між прафэсароў Менскага унівэрсытэту і між артыстаў імёны жыдоў цяпер сустракаюцца нярэдка, а ў гандлёвых установах дык нават даволі часта.

## АНГЛІЯ

**Аб сакавіковых урачыстасьцях глядзі рэпартаж на стар. 10.**

**Урачыстасьці ў Манчэстэры**

Беларусы з Манчэстэру і ваколіцы азначалі Сакавіковыя ўгодкі 4-га красавіка. Гэтага дня а. Аляксандар сьвятар БАПЦ адслужыў у англіканскай царкве Службу Божую і малебень за Беларусь і сказаў прынагаднае казаньне, а папалудні адбылася акадэмія ў мяйсцовым беларускім клюбе. Акрамя беларусаў на акадэміі былі так-жа прадстаўнікі ад украінскіх ваенных і маладняцкіх арганізацыяў.

## АРГЭНТЫНА

**Першы раз на аргэнтынскіх хвалях этэру**

Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне азначыла сёлета 36-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі вельмі ўдалаю радыёперадачаю праз найважнейшую аргэнтынскую радыёстанцыю «Эксцэльсіёр». Адбылася яна 26. III. і потым была паўторана 3 і 6 красавіка дзьвюмя іншымі радыёстанцыямі. Праграма радыёперадачы складалася з зьмястоўнае прамовы К. Мерляка ў гішпанскай мове і беларускіх песьняў з дыскаў.

У рамах далейшае праграмы сьвяткаваньня нацыянальнага дня а. Б. Арыйчык сьвятар УАПЦ адслужыў у украінскай царкве Службу Божую за Беларусь і прывітаў беларусаў з нацыянальным сьвятам, а папалудні адбылася акадэмія хоць і з небагатай праграмай.

**Харвацкая прэса аб Беларусі**

Паважная харвацкая газэта ў Аргэнтыне HRVATSKA зьмясьціла ў Нр. 4(148) і 5(149) у рубрыцы «Нашы саюзьнікі» вялікі інфармацыйны артыкул К. Мерляка аб Беларусі.

## АЎСТРАЛІЯ

**З арганізацыйнага жыцьця**

● **У Брісбане** сёлета на пачатку сакавіка зарганізована Беларускі драматычны гурток і Ансамбль беларускае песьні і адразу распачата падрыхтоўку да першага выступленьня.

● Для азначэньня 36-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў **у Брысбане** выдала спэцыяльны значок «Дар 25 Сакавіка» які прадавалі на сьвяточнай сходны 28. III.

● **У Адэляідзе** 28. III. а. Шчурко сьвятар БАПЦ адправіў урачыстую Службу Божую за Беларусь, а папалудні адбылася сходка мяйсцовых беларусаў, на якой інж. Трысмакаў прачытаў рэфэрат аб 25 Сакавіку.

● **У Пэрт** для азначэньне 36-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылася агульная сходка сяброў з гораду і ваколіцы. Выслухаўшы рэфэрат Дуброўскага аб Сакавіковым акце і кароткую мастацкую частку,, прысутныя наладзілі вечарыну.

**БЭЛЬГІЯ**

**Гомілетычны лісток**

У душпастырскай працы на эміграцыі адною з найбольшых перашкодаў ёсьць расьсеяньне. Памоцнаю ў гэтай цяжкасьці можа быць рэлігійная прэса, але на вялікі жаль яна ў нас выйходзіць вельмі рэдка і таму каб памагчы сабе ў працы рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Бэльгіі а. Францішак Чарняўскі пачаў ад 1. III. выдаваць у Лювэне рэлігійны лісток «Слова Божае» ў якім падаюцца нядзеляшнія Эвангельлі і кароткія казаньні. Вітаем новае выдаветцва.

**З песьняй па Бэльгіі**

Карыстаючы з кароткае гасьціны ў Бэльгіі ведамага беларускага сьпевака баса Пётры Конюха Ансамбль беларускіх студэнтаў з Лювэну даў некалькі канцэртаў для бэльгійцаў. Пры гэтым кожны канцэрт папераджала ўступнае слова а. Робэрта ван Каувэлярта аб Беларусі. І так 14. III. адбыўся канцэрт у манастыры айцоў Бэнэдыктынцаў у Лювэне, 21. III. — у Говэрльскай калегіі, дзе вучацца беларускія гімназісткі, 22. III. у Вялікай Ротондзе Лювэнскага Унівэрсытэту, а 23. III. у лягэры Арцэляр недалёка ад Антвэрпэну ў доме для старых. Усюды салі былі перапоўнены і гучныя воплескі слухачоў сьведчылі аб тых глыбокіх перажываньнях, якія могуць даць людзям мэлёдыі беларускіх пасьняў і агляданьне беларускіх народных танцаў.

**36-ыя ўгодкі Сакавіковага Акту**

Беларусы з Лювэну і прадстаўнікі з іншых беларускіх асяродкаў у Бэльгіі ладзілі сьвяткаваньне Нацыянальнага Дня 4-га красавіка. Раніцаю а. Аўгень сьвятар БАПЦ адправіў урачыстую Службу Божую, якую ўшанаваў сваею прысутнасьцю Я. Э. Балеслаў Слосканс. А папалудні таго дня адбылася акадэмія ў Студэнцкім Доме. Адчыніў яе старшыня Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня і наступна пасьля песьні за паўшых у змаганьні перадаў слова д-ру Б. Рагулі. Ён зрабіў кароткі агляд дасюлешняе дзейнасьці і асягненьняў беларускае эміграцыі і асабліва ўраду БНР, а ўканцы падчыркнуў неабходнасьць узмацненьня нашых радоў. На мастацкую частку зложыліся: выступленьне студэнцкага хору і солё П. Конюха. Ужо колькі раз чутае гэтым разам прысутныя слухалі з асаблівым настроем, бо і слухаць было што. Закончылася акадэмія агульным адсьпяваньнем беларускага нацыяльнага гымну.

**ГІШПАНІЯ**

**25-га Сакавіка ў Мадрыдзе**

Беларускія студэнты ў Мадрыдзе не пашкадавалі стараньняў, каб годна ўшанаваць 36-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Раніцаю 25. III. у калегіі Сьв. Якава а. Антоні-Матэй Вільлярэаль адправіў у калегіяльнай капліцы Службу Божую за беларускі народ. На багаслужэньні прысутнічалі прадстаўнікі адміністрацыі калегіі і прадстаўнікі ўсіх нацыянальных групаў студэнтаў калегіі, а дырэктар, ня могучы быць асабіста, прыслаў шчырае прывітаньне. Таго-ж дня ў часе між 20,50 і 21 гадз. гішпанскае радыё перадало зьмястоўную аўдыцыю ў беларускай мове на хвалі 31,3 м. Гішпанская прэса падала на сваіх старонках кароткую зацемку аб гэтым сьвяткаваньні.

**Падзяка гішпанскім дзецям**

Як падаецца на іншым мейсцы, гішпанскія дзеці з дыяцэзіі Мондоньедо адаптавалі Беларусь, каб маліцца і ахвяроўваць за яе вызваленьне свае пабожныя і пакутныя ўчынкі. За гэты высокародны чын гішпанскіх дзяцей прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Францыі і прадстаўнікі беларускага юнацтва выслалі ў Фэроль лісты з выяўленьнем удзячнасьці і прызнаньня.

**З.Ш.А.**

**З арганізацыйнага жыцьця**

● **Сёмая Сэсія Рады БНР**, вычарпаўшы намечаны парадак, зачыніла дня 4-га красавіка сваю працу. Гэта была адна з даўжэйшых сэсіяў; цягнулася яна аж 6 месяцаў, бо паседжаньні адбываліся толькі раз, або два разы на тыдзень. За гэты час былі палагоджаны актуальныя праблемы і асягнена маналітнасьць Рады адносна ўсіх прынцыповых пытаньняў унутранае і вонкавае палітыкі.

● **36-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі** азначалі беларусы з Нью Ёрку і ваколіц дня 28. III. Раніцаю гэтага дня арх. БАПЦ Васілі адправіў Службу Божую і малебень за Беларусь, а папалудні адбылася ўрачыстая акадэмія з бага-

таю праграмай у салі Вашынгтон Ірвінг Гой скул. Сёлета беларусы з прыемнасьцю маглі сьцьвердзіць, што акадэмію ўшанавала нябывалая да гэтага часу колькасьць прадстаўнікоў ад іншых народаў і перадусім ад згуртаваных у Парыскім блёку. Да прысутных прамаўляў прэз. М. Абрамчык. Ад беларускіх і іншанацыянальных арганізацыяў было прыслана толькі прывітаньняў, што іх адчытаньне трывала больш гадзіны. Мастацкая частка акадэміі была добра падабрана і ўдала выканана, наглядна паказваючы ўсім прысутным, што беларускія творчыя сілы нявычарпальныя і воля нязломная; і дзякуючы ім беларусы нямінуча асягнуць ідэал, намечаны Актам 25 Сакавіка.

● Стараньнямі Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва і Навуковым Таварыствам Пр. Скарыны было наладжана 21. III. супольнае паседжаньне для **ушанаваньня памяці с. п. М. Равенскага** з нагоды першых угодкаў ягонае сьмерці.

## КАНАДА

### Беларускія радыёперадачы

Актыў Згуртаваньня Беларусаў у Монтрэалі здабыў магчымасьць мець беларускія перадачы ў радыё СіБіСі і «Голас Канады». Першыя беларускія радыёаўдыцыі складаліся з выступленьняў мужчынскага хору і кароткіх гістарычных нарысаў на актуальныя тэмы. У праграме такіх аўдыцыяў адбылася спэцыяльная перадача 25. III. на кароткіх хвалях 16,84 і 19,25 м. спэцыяльна прызначаная для суродзічаў на бацькаўшчыне.

## НЯМЕЧЧЫНА

### Штодзенныя радыёперадачы

Рэдакцыйная калегія беларускага сэктару пры радыёстанцыі «Вызваленьне» вядзе інтэнзыўную падрыхтоўку, каб пачынаючы ад 20-га траўня распачаць штодзенныя беларускія радыёперадачы на кароткіх хвалях 31 м., 49 м. і інш.

## ФРАНЦЫЯ

### Сакавіковыя ўрачыстасьці

● Трыццацьшостыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі азначалі **беларусы з Парыжу** і ваколіц 28. III. Гэтага дня ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі адправіў урачыстую Службу Божую і сказаў казаньне аб любові да бацькаўшчыны. Папалудні таго-ж дня адбылася акадэмія ў салі Хрысьціянскага Сындыкату. Гэтым разам саля была поўная. Беларускую ўрачыстасьць ўшанаваў сваею прысутнасьцю монс. Рюпп — гэнэральны вікары для чужынцоў у Парыскім Архібіскупстве. Адчыніў акадэмію гэнэральны сакратар АБРФ М. Наумовіч і пасьля малітвы «Магутны Божа» ў кароткіх словах выказаў значэньне Сакавіковага Акту ды прачытаў надасланыя прывітаньні. Потым прамаўляў монс. Рюпп — ягоныя шчырыя падбадзёруючыя словы надоўга астануцца ў памяці прысутных. Даклад аб Сакавіковых падзеях прачытаў В. Міцкевіч. На мастацкую частку злажыліся дэклямацыі, выступленьні солё В. Жаўняровіча і сьпевы з дыскаў М. Забэйды-Суміцкага і Лювэнскага хору.

● Беларусы **з Ля Крэзо** і ваколіц ладзілі сьвяткаваньне Сакавіковага Акту 21. III. Раніцаю гэтага дня рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі, а. Леў адправіў Службу Божую ў царкве сьв. Карла і сказаў казаньне аб хрысьціянскіх абавязках адносна бліжніх і бацькаўшчыны. Пасьля Службы Божае адбыўся супольны абед. У прыветнай сяброўскай атмасфэры і не агледзеліся, як трэба было сьпяшацца ў мэроўства, каб быць там на вызначаны час для акадэміі. У салі побач беларусаў сабраліся немалыя групы прадстаўнікоў ад украінцаў і баўгараў. Акадэмію адчыніў старшыня мяйсцовае філіі АБРФ Б. Нагорны і перадаў слова М. Булызе. Ён з жаўнерскім запалам прачытаў рэфэрат аб гісторыі Сакавіковага Акту. Пасьля рэфэрату віталі беларусаў з нацыянальным сьвятам украінцы і баўгары. Дапоўніў іхныя прывітаньні а. Леў прыветам ад сяброў з Парыжу і коратка прадставіў сучасны стан беларускае вызвольнае справы. Потым Ю. Гасьцееў прачытаў цікавы рэфэрат аб угодках, што прыпадаюць на Сакавік. Мастацкая частка акадэміі складалася з дэклямацыяў патрыятычных вершаў і сьпеваў. Асабліва шмат воплескаў назьбіралі найменшыя сьпевакі Янусь, Аня і Лёля. Закончылася акадэмія беларускім нацыянальным гымнам, але прысутныя не сьпяшаліся выходзіць з салі, дзе пражылі некалькі лепшых хвілінаў свайго жыцьця і дзе вытварыўся бадзёры і прыязны настрой.

● У дэпартамантах **Норд і Па-дэ-Калэ** беларусы расьсеяны невялічкімі групамі, але для ўшанаваньня 36-ых угодкаў абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, хто толькі мог, сьпяшаўся 28. III. у Рубэ. Туды так-жа прыехаў з Бэльгіі а. Францішак Чарняўскі і адправіў Службу Божую за Беларусь, а папалудні таго дня адбылася акадэмія, на праграму якое злажыліся: малітва «Магутны Божа», рэфэрат на тэму дня, прамова а. Чарняўскага і нацыянальны гымн.

### Гадавы сход АБРФ ў філіі Норд

Карыстаючы з нагоды зьезду беларусаў у Рубэ 28. III. мяйсцовая філія Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі адбыла свой гадавы сход. Пасьля справаздачы ўправы і намечаньня пляну працы на йдучы год выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — Я. Раманоўскі, сакратар — Ул. Каштэлян, скарбнік — Б. Прытыцкі.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## АД ЗУХВАЛЬСТВА ДА РОСПАЧЫ

Адзін малады чалавек, сын багатых бацькоў, не адмаўляў сабе нічога, задавальняючы ўсе сваe пажаданьні. На галасы асьцярогі ён не зьвяртаў ніякае ўвагі. Калі аднойчы яму гаварылі, каб апамятаўся і падумаў аб сваёй душы, дык адказаў з усьмешкаю: «Я здаюся на сьвятога, які ёсьць усемагутны, і ён неяк аба мне падбае». Тады яго спыталі: «Хто-ж гэта той сьвяты?» Малады чалавек сьмяючыся адказаў: «Божая міласэрнасьць». Так пражыў ён некалькі гадоў, аж аднаго дня раптам паважна захварэў. Ягоны стан хутка пагоршваўся і прыяцялі паслалі па сьвятара, а сам хворы адчуваючы хуткі канец пачаў рабіць рахунак сумленьня. Але калі ён толькі паважна глянуў у сваё сумленьне, перад вачыма сталі ўсе ягоныя злачыны і бясчынствы. З жахам закрычаў хворы: «Што за страшэнны рэгістар грахоў; яму і канца няма». Страшэннае прыгнобленьне і неімаверны жах апанавалі яго і пакуль усьпеў прыйсьці сьвятар, хворы памёр з азнакамі роспачы.

## ДЗЕ КАНЧАЕЦЦА ЛЮДЗКАЯ МУДРАСЬЦЬ

Барон фон Котвіц вялікі прыяцель бедных аднойчы адведаў у Бэрліне агульнаведамага філёзафа Фіхтэ (1762-1814). Філёзаф спачатку глядзеў на Котвіца згары. У часе гутаркі яны закранулі пытаньне малітвы і тады Фіхтэ заўважыў суха: «Дзіцця моліцца, а мужчына хоча». На гэта адказаў Котвіц: «Прафэсар, я мушу пракарміць шэсьць сот дзяцей і часта ня ведаю, дзе ўзяць для іх хлеба. Тады ў мяне астаецца толькі адзін сродак: малітва да майго нябеснага Айца і Ён мне заўсёды памагае». Фіхтэ маўчаў некалькі хвілін і па ягоных шчоках скаціліся дзьве буйныя сьлязіны. Апанаваўшы сябе, ён сказаў: «Любы барон, так далёка мая фалязофія не сягае». Перад сваею сьмерцю Фіхтэ прызначыў старога барона Котвіца на апякуна для свайго сына.

**Паводля а. Коха**

## У АБАРОНЕ НАЙБОЛЬШАГА СКАРБУ

У часе свае маладосьці сьв. Бэрнард падчас аднае прагулкі са сваімі сябрамі мусіў начаваць у адным замку. Гаспадыня замку, ачараваная ягонаю маладняцкаю сьвежасьцю, пастанавіла яго зьвесці і ноччу ўварвалася ў ягоны пакой. Бэрнард як бачыш апанаваў сябе і, усьведаміўшы палажэньне, пачаў голасна крычаць: «Злодзей, злодзей!» Замкавыя слугі хутка прыбеглі да пакою Бэрнарда, але ўжо нікога нідзе не знайшлі, бо гаспадыня мігам уцякла ў свой пакой. Назаўтра сябры жартавалі з Бэрнарда, што ён зладеяў прысьніў. На гэта Бэрнард адказаў паважна: «Пакіньце жартаваць, бо злодзей сапраўды быў у маім пакоі, але ён шукаў не маіх грошаў, толькі мае чэсьці».

**Паводля К. Голь «Маладосьць вялікіх людзей».**

## ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА.

У 1923 г. калі сама разрасталася ў Савецкім Саюзе так званая «Жывая царква», адбылася зборка жывацаркоўнікаў у вёсцы Чыстоветка Харкаўскае губ. на чале з жывацаркоўным сьвятаром у справе «чысткі сьвятых».

— Ці Сергія Раданежскага астаўляеце ў сьвятых? — пытаўся прадседнік зборкі.

— Выкінуць вон. Багаслаўляў цароў на крывавыя бойні! — закрычалі «вернікі».

— А Іосіфа Белгародзкага як?

— Вон, памешчык, сын палкоўніка!

Уканцы зборка вынесла рэзалюцыю: «Выкінуць з ліку сьвятых усіх так званых праваднікоў буржуазнага паходжаньня». («Последнія Новости» 14 фев. 1923 г.).

Нядаўна між беларусаў выявіліся прадаўжальнікі «чысткі сьвятых». Што-ж гісторыя паўтараецца.

## ВЫМОЎНЫ ПАДАРУНАК.

У часе нядаўнае хваробы папы Пія XII турбаваліся ягоным станам здароўя ня толькі каталікі, але і шматлікія іншаверцы. Між іншым у тым часе рабін з Кліўлянду (ЗША) Рудольф Розэнталь выслаў у Ватыкан тэлеграму з жаданьнем хуткага выздараўленьня папы і пры гэтым далучыў чэк ад свайго прыяцеля Гэнрыха Палячка на 93 даляры. Гэтая сума мела азначаць пашану да 78 гадоў жыцьця і 15 гадоў пантыфікату сучаснага Сьвяцейшага Айца.

Два гады таму той рабін быў у Рыме на аўдыенцыі ў Сьвяцейшага Айца і аўдыенцыя зрабіла на рабіна незацёртае ўражэньне.

## ПАШАНА ІМПЭРАТАРА ДА БАГАРОДЗІЦЫ

Бізантыйскі імпэратар Мануіл Комнэн (1143-1180) вяртаўся аднойчы ў Канстантынопаль з пераможнае вайны ў Малой Азіі. У сталіцы рыхтавалі яму трыумфальнае спатканьне. Трыумфальны воз, прызначаны для імпэратара, аж зіхацеў ад серабра, золата і дарагіх каменьняў. Але імпэратар ня сеў на гэты воз; ён паставіў туды ікону Божае Маці і ўпрыгожыў яе вялікім напісам: «Неадольнай Хаўрусьніцы і непераможнай Правадырцы імпэратараў!» І толькі за гэтым трыумфальным возам Багародзіцы ехаў скромна імпэратар на белым кані.

# ЗЬМЕСТ


а. Леў — Вялікодны настрой . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1

а. Тарасэвіч — Ісус Хрыстос . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2

а. Л. Гарошка — Ікона-абраз . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

а. Л. Гарошка — Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі 4

А. Н. — Грэцкая калегія ў Рыме і Беларусы (Заканчэньне) . . . . 7

А. Жменя — Адважны крок . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8

а. Ч. Сіповіч — Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Лёндане . . . . . . . . . . 10

На рэлігійнай ніве . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 11

Беларуская хроніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13

Абразкі з жыцьця . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ***